# Далоу здраднікоу! Далоу шаптуноу Масквы і Бэрліна!


# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЕС РЕДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.




*Вільня 4 студня 1922 г.*

Прадвыбарная акцыя ідзе як найлепей.

Цяпер ужо можна з пэўнасьцью сказаць, што ўвесь беларускі народ пойдзе на выбары. Уся агітацыя проці выбараў, якую вёў прэзыдыум „Белар. Нацыян. Камітэту“, пры дапамозе сваіх часопісаў і аднаднёвак, звялася да нуля...

А агітатары, якія паяўляліся ў беларускіх вёсках, і пачыналі гаварыць проці выбараў ў Сойм—як сьведчаць нашы карэспандэнты—выправаджываліся самімі сялянамі. Не памаглі і казаньня ксяндзоў—літоўцаў.

## БЕЛАРУСЫ!

**Вашыя выбарчыя сьпіскі, за якія усе мусіце галасаваць як адзін.**

Па Ашмянскаму вокругу сьпісак № 6.

1. Аляксюк Павал.
2. Тарчэўскі Янка.
3. Карэнда Міхал.
4. Буткевіч Пётра.
5. Камароўскі Фэлікс.
6. Стрыга Аляксандар.
7. Субач Францык.
8. Ганусевіч Ігнат.
9. Родзька Андрэй.
10. Чыжэўская Мар'я.
11. Барчоўскі Язэп.
12. Семян Сьцяпан.

Па Камайскаму вокругу сьпісак № 5

1. Шышкоў Васіль.
2. Бэкіш Янка.
3. Міхайлаў фядот.
4. Цьвілэнь Марцін.
5. Барсукоў Васіль.

Выбарчы Камісар
Адам Курыловіч.

Такія прыхільныя адносіны да выбараў беларускага сялянскага народу сьведчаць аб тым, што здаровы народны вум, а можа і нацыянальны інстынкт беларуса, падказываюць яму праўдзівае і карыстнае для яго развязаньне палітычнай праблемы.

Беларускі сялянін ужо добра разьбіраецца, хто для яго вораг, і хто прыяцель,

І няма нічога дзіўнага ў тым, што прыхільнікі п. Ластоўскага, ня адважываюцца выступаць на прадвыбарных сабраньнях, а п. Аляксюка—як гэта было 1 студня на прадвыбарным сабраньні ў Ашмяне—народ сустрэціў бурнай авацыяй і аднёсься даяго, як да свайго праўдзівага і пэўнага прадстаўніка, ды якога ён мае поўнае давера, які нікэлі ня прадасьць роднай справы за нямецкія марачкі ці за царскія рублі, як гэта робяць іншыя беларускія дзеячы.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкаў высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымываццa, то высылка газэты будзе затрымана.*

Кантора газэты „Раніца“ паведамляе, што магазынам выпісываючым газэту дзеля прадажы, кантора будзе рабіць 30 проц. уступкі.

## Навакола выбараў. Агульны настрой.

Агульны настрой селян бесспрэчна прыхільны да выбарнай акцы. На гэта паказвае такі прыклад, што ў Даўгельскай воласьці сяляне прадставілі ўласны сьпісак на выбары. Цяпер патрэбен найбольшы лік інтэлігэнтных працаўнікоў, якія-б маглі аказваць помач вакружным прадвыбарным камісіям у апошніх днёх, а так сама і ў дзень галасаваньня.

Прадвыбарная агітацыя. Агітацыя, якая праводзіцца ў вёсках бліжэйшых ад зялезнай дарогі, як напрыклад, у валасьцёх: Даўгеліскай, Цэхінскай і Бoлтынянскай і інш., нямае вялікай сілы. І навет сяляне часта пытаюцца дзе будзе адбывацца Сойм у Вільні ці ў Коўне. У Вільні сяляне—як кажуць, ня чулі аб Сойму, а калі чулі дык вельмі слабо. Але Сойм іх вельмі цікавіць. Вялікі брак у тым, што агітацыйныя адозвы друкуюцца на той мове, якое насяленьне ня ведае. Як напрыклад, жыхарам Браслаўскага павету старазаконьнікам, якія прыхільны да польскай дзяржаўнасьці і з ахвотай ідуць галасаваць, літоўская мова заўсім не знаёма.

Агітацыя ворагоў. Агітацыя няпрыяцелёў асабіста ў валасьцёх з літоўскім насяленьнем, праводзіцца мейсцовым літоўскім духовенствам вельмі інтэнсіўна. Агітацыя апіраецца на фальшывыя ведамасьці, ад якіх ідуць гукі, што Віленскі Сойм робіцца дзеля таго, каб устанавіць паншчыну, і адабраць зямлю ў жыхароў, і т. п. Так сама пушчаюць ведамасьці і на тое, што выбары будуць адцягнуты на тэрмін 1 мая.

## Сярод пушчы.

(маленькі абразок)

— Вы ня ведаеце, мае браточкі, як я люблю гэтую пушчу! Што можа быць крашча гэтай пушчы! Вось толькі ўслухайцеся ў яе. — Казаў Мікола гледзючы з радасьцью на нас.

У яго вачох гарэў агонь шчасьця і задаваленьня.

Я глянуў наўкола...

Сэрцам душой і думкай я быў згодзен з ім...

Да, гэта так, мой родны брат! Няма нічога на сьвеце, што можа быць крашча нашай пушчы!..

Я зьняў шапку і слухаў...

Слухаў, як пяе яна на розныя тоны, як бьецца яе сэрца...

Легкі вецярок калыхаў галіны, і лісьця шапталіся паміж сабою, і чулася ў гэтым гомане галін нейкая, ім толькі вядомая, таеннасьць жыцьця.

Вялікія ёлкі і сосны пагарда, глядзелі ў далёкае неба, і ў галінах іх, гдзесь высока птушкі пялі. Яны пялі аб шчасьці, аб вольнасьці, і ў песьнях іх чулася падзяка таму, хто даў ім жыцьцё...

Ціха шумеў лес, і здаецца маліўся высокаму небу, пяяў яму гімн...

Якую ты крыеш жыцьцёвую таеннасьць, ты, магутны лес?

Чаму ты ня скажаш нам, забітым нядоляй, слоў крыху ўцехі? Чаму?

Ты бачыш, як цяжка нам жывецца.

Часьцей зашумеў лес. мацней зашапталі лісьця, загудзеў вецер і пачулі мы як ён нам гаманіў:

Ужо даўно заву я вас, людзі, да сябе, ужо даў нобудзіў я вас прачнуцца... Тутака сярод мяне, знайдзеце вы шлях, які павядзе вас да праўды, да неба, да яскровых зор, тутака знайдзеце ад усёй жыцьцёвай пакуты спакой...

Вякамі заву я вас да сябе.. Але голас мой застаўся не пачутным вамі.

Да мяне вышлі толькі з крыўдай,

